ханага суседа с «простых,» і калі ні прадавала сябе і свае сілы за грошы, то сядзела моўчкі і ні варушылася. Пры такіх варунках трудна, разумеецца, захаваць гонар і павагу, і ні толькі ўласьць маючые, а просты вураднік і палісмэн плявалі у твар, страціўшаму гонар, народу. Дзе-ж тут вырасьці здаровай і крэпкай псіхалёгіі? Як магло завязацца пазнанне праўды і справедлівасьці? Дзе-ж грунт для грамадзянскага жыцьця?

Цёмны рабочы, крамар, селянін, калі любіў па інсцінкту свайго сына, дык навучаў яго трымаць нос па ветру, ні думаць аб ідэалізмі, аб жыцьці з гонарам, з грамадзянскімі абавязкамі. Забіты і заштурханы, ён ні ведаў нічога лепшага,—ні ведаў, што робячы дрэнна другім, робіш шкоду сабе; што ні падтрымаўшы бліжняга, валішся сам. Ен ведаў адно: мая хата с краю—нічога ні знаю; свая сарочка бліжэй к целу...

І сын рабіў, што казаў бацька. Браў булаву, ды выходзіў на дарогу, пад мост, на шлях людзкога раздарожжа. Так і гінуў у ём чалавек. Сэрца камянела, душа абрастала поскудзью; а розум станавіўся мяркаваннем дзікага зьвера.

Пры такіх варунках, пры гэтакай псіхалёгіі грамадзянства, ды яшчэ у часе ашалелай сусьветнай вайны, што заліла кроўю усё чалавецтва,—зрабілася расійская рэвалюцыя. Чорная, раней зьнікшая хмара, цудам зноў сабралася, па момэнт злучылася, загрымела і—разляцеліся муры царызму. Але толькі на момэнт,—хмара зноў разышлася на маленькія хмаркі. І пачалося тое, што цяпер мы бачым. Бій, грабуй, дзяры, бяры, давай! Гады з мешка павылазілі і распаўзьліся па усёй зямлі. Ні паслухаў чалавек Божага прыказаньня, ня кінуў мешка ў мора, а развязаў зірнуць, што ў ём захована. І выпаўзлі гады. Шыпяць яны і ядам сьмерці пыршчуць навокала. Страшна глянуць, што робіцца у расійшчыні. Там аграбілі, тут забілі, там абакралі, тут падпалілі. І гэты сьмяртэльны яд гніеньня расходзіцца с цэнтру на акраіны...

— Ты якой партыі?

— Я—большэвік.

— Бій большэвіка!

— А ты якой партыі?

— Я—кадэт.

— Бій кадэтаў!

— Ты эсэр? Вон эсэраў!

— А ты бязпартыйны? Бачыш, палахлівая лісіца, значыць, чыя возьме, туды і прыхілюся. Чужымі рукамі жар загрэбае. Вон бязпартыйных!..

А тыя, каму трэба, хітрыя і мудрыя як індыйскія факіры, спрытна карыстаюць з гэтага, падпускаючы гнілі. Грамадзяне ачніцеся! Сцеражыцяся заразы. Рвіце с карэнням наросты чортапалоху!

І. Піліпаў.

## Жыцьцё меняецца.

З давен-даўных часаў, калі наша Беларусь была нізалежнай старонкай і квітнела ва ўсёй красе свае культуры, калі былі ў нас людзі вучоныя, людзі кахаўшыя сваю бацькаўшчыну, людзі, гатовыя жыцьцё палажыць дзеля яе дабра,—жылі тагды шчасьліва нашы продкі, ня трэба было ім шукаць кавалка хлеба ў чужынцаў, ніхто тагды не называў нас «мужыкамі», «простымі» і іншымі такімі прозвішчамі. Сумежныя народы цанілі дружбу з беларусамі і паважалі іх, як роўных сабе, бо беларусы гэтага заслужывалі, бо не былі яны хцівыя на чужое дабро, не рабілі нікому крыўды, жылі сваім, шанавалі тое, чым надзяліла іх натура: мову родную, парадкі, звычаі і інш. Суседзі паважалі беларусаў, як разумны і добры народ.

Але час ідзе, а жыцьцё меняецца. Пачаліся войны. Беларусь мусіла змагацца за сваю волю, а дзеля таго, што яна была старонкай не ваяўніцкай,—дык мусіла паддацца пад уладарства сваім суседзям. І пачынаецца нешчасьлівае жыцьцё для Беларусі. Так як рэчку чыстую, з высокімі берагамі, са жвіровым дном паводкі заносяць брудам і ламацьцём, так і ў нашу старонку, страціўшую сваю нізалежнасьць, стаў наплываць усе-лякі зброд чужынцаў і заводзіць у ёй парадкі. А так як Беларусь пераходзіла па некалькі разоў з рук у рукі ад Польшчы да Расіі й назад, то кожны гэткі апякун, перадаючы Беларусь другому, стараўся зрабіць ёй як найбольш шкоды. Лепшыя людзі Беларусі, бачучы гэткі здзек над сваёй старонкай, хацелі чым-небудзь памагчы ёй, але нічога не ўдавалася. Аставаўся адзін ратунак—вайною выбіцца с-пад чужой апекі, але Беларусь на гэта не была здатна; яна лепш аддала сябе ў ахвяру заміж таго, каб праліваць людзкую кроў. І вось у нашу старонку сталі находзіць палякі і расійцы. Кожны з іх хацеў перацягнуць беларусаў на свой бок, даць ім сваю мову, свае парадкі. Доўга баларус змагаўся з гэтым, але нарэшці не вытрымаў. З усіх грамадзянскіх інстытуцый выгналі яго мову і сталі заводзіць свае парадкі. Беларус глядзеў на гэта, ды плакаў душой.

Час ідзе, а жыцьцё меняецца. Сталі выміраць на Беларусі старыя, лепшыя людзі, што памяталі яшчэ розквіт свае старонкі; сталі нараджацца новыя, што хінуліс да новых парадкоў, забываліся свайго і пераймалі чужое. Але ня ўсе сыны Беларусі пайшлі па гэтай дарозі; шмат асталося верным сваёй бацькаўшчыні, не страцілі свае мовы, сваіх звычаяў. Дык вось гэтых праўдзівых сыноў Беларусі іх браты-перакіньчыкі са сваімі «апякунамі» і назвалі «мужыкамі», «хамуламі», «простымі», «цёмнымі» і інш. такімі манюпкамі за тое толькі, што яны не пайшлі сьледам за імі. Праўда, тыя, што ушанавалі сваю мову, засталіся «цёмнымі», без асьветы, бо навукі ў роднай мові «апякуны» ім не далі, а чужая навука не пайшла на карысьць.

Час ідзе, а жыцьцё меняецца. Насталі 1905—1917 годы, і ледзь жывое цела Беларусі стало ачуніваць, сталі загоівацца раны; яшчэ ляжыць яна хворая, ня можа сама ўстаць і не ўстане, пакуль усе мы, сыны яе, як добрую сваю матку, ня паднімем.

З адраджэньнем Беларусі «апякуноў» нашых бярэ нейкая няпэўнасьць, стараюцца яны ўгаварыць нас, што мы яшчэ «малалетнія» і апекі не пара здыймаць, а то гаворуць, што мы парабкі іхнія і мусім служыць ім ўвесь век наш. Не! Досыць ужо гэтай «апекі» і гэтай «службы». Дзякуем за дабрадзейства! Ня трэба нам ужо нянек, што галаву чэшучы, грэбянем валасы рвалі, сарочку накладаючы, цела шчыпалі. «Апякуны» нашы могуць ісьці туды, адкуль прыйшлі, а гаспадарку сваю мы возьмем у свае рукі. Дык зьбірайся, беларускі народ, на сваёй ніві гаспадарыць!

Язэп Шпэт.

## Адклад ня йдзе у лад.

(Казка)

У адном мейсцы быў спорны, саўсім занедбаны кавалак зямлі. Колісь-то быў тут пекны сад, бо відаць, усе сьцежачкі, крывенькія і роўныя, сходзіліся к аднаму самаму старэйшаму і самаму большаму дубу. На кары гэтага дуба была вырэзана лічба—1789. Мусіць, то быў год залажэння саду, прынамсі так гаварылі людзі.

Цяпер, на гэтым кавалку зямлі, то там, то сям, пасярод пнёў ад даўнейшага саду, павырасталі кусты калючага асоту і усялякага брыдкага зельля. Многа валялася і каменняў.

— Тата!—сказалі аднаго часу тры сыны свайму бацьку:—дай гэты кавалак зямлі нам, мы яго выпрачам ад бруду.

З вялікаю ахвотаю згадзіўся бацька. Ен раздзяліў землю на тры роўныя часткі, ды даў кожнаму па куску занедбанае зямлі. Гэта было у канцы марца. Дзянькі стаялі пекныя, найлепшыя да працы. Братэ пільна узяліся за работу. Праз два тыдні два большыя ачысьцілі свае часткі ад асоту і зельля, аж любата паглядзець. Але малодшы іх брат больш забаўляўся, як працаваў. Дзянёчкі ішлі, а ён усё адкладаў сваю працу на даляй, на зручнейшы час. Тым часам, надышло лецяйко, стало горача. Прабаваў ён і цяпер працаваць, але ад гарачыні балела галава, ліўся пот у гультая і усё валілася з рук. Стаў чакаць ён восені. «Спадзе жар, пахаладае, —думаў гультай,—і тагды прымуся зноў

## Палесьсе.

Край лясоў, край балот і туманаў гнілых!
Хоць і бедна ў табе, і у лозах тваіх
Вецер у восень жудою шуміць,
А ўсё ж міл ты мне—чым? ня ведаю сам,
Сумны вобраз маім прыглядзеўся вачам,
І к табе маё сэрцэ ляжыць.

Я люблю твой абшар, гмах шырокі балот,
Дзе бубняць бугаі, дзе красуе чарот,
І дзе травы, як морэ, ляглі.
Калі лес там—дык лес! можна тыдзень
дыбаць,
А прастор—дык прастор, і канца не відаць.
З сінім небам зліецца ўдалі!

Я люблю твой спакой, яснасьць ціхіх
дзянькоў,
Залаценькі убор, тую чырвонь лясоў,
Што на сонцы у восень бруіць...
Я далёка цяпер ад палескіх раўнін,
А люблю ж я той край, бы яго родны сын,
І па ём маё сэрцэ баліць.

Якуб Колас.



## Нэйтралітэт.

Прышлі да пісара у хату
З вялікай просьбай мужыкі,
Каб распытаць—ці гэта праўду
Плятуць людзкія языкі?
І што цяпер чутно з вайною,
Ці скора мір, як нашы йдуць.
«Бо мы, як ведама, паночак,—
Адкуль што можам знаць і чуць?
А пан пісьменны і газэты
Пераглядаеш кожын дзень,
З начальствам бачышся, а наш брат—
Казаў бы, цёмны як той, пень.
Мы во—й газэціны купілі,
С сабой да пана прынесьлі,—
Чытаць бо з нас ніхто ня знае,
Дзеля таго, бач, і прышлі,
А вельмі хочацца што-небудзь
Ад вас пачуць. Будзь ласкаў, пан...
— Каб што з газэт дазнацца нам...
Уткнуў да просьбы той Сцепан.
— Ага,—ну, добра! Дзе-ж газэта?
— А во, паночак,—я купіў,
Бо чуў на рынку, як казалі,—
Ці мо з дурнога хто падкпіў?—
Што енэральна пойдзе бойка,
Настаў для іх чарод і срок,—
Спачынуць там крыху салдаты...
Але ці праўда, мой панок?
— Пакінь дурыць, пляцеш пустое,—
Значэння слоў ня зразумеў,
Бо ў гепэральныя сражэння
Ідуць усё.—Вось пісар сеў,
Газэту зважна расхінуў,
Узлажыў два шкельцы на свой нос,
Зажыў досьць спорна с табакеркі,
Чупрыну пальцамі устрос
Ды стаў чытаць, а сам, што знае,
У сьлед тлумачэ. Мужыкі
Уважна слухаюць, паклаўшы
Ажно на губы языкі.
Дайшоў чарод перш да баўгараў.
— Пра гадаў пішуць шмат стацей!
Хтось ня стрымаўся, каб ня скласьці.
А пісар кажа:—Савасьцей,
Табе здаецца, што баўгары
Для нас шкадлівы,—а ні чуць!
Іх англіканы і французы
К сабе у помач ня бяруць,—
Ці-ж гэта войска? Сьмех і сорам,
Каб жабрака салдатам зваць!
Няўжо баўгарына ніколі
Ні давялося сустрэчаць?
Ен голы, босы, у лахмоцці
Вандруе з малпай цэлы век,
А не, дык з бубнам. Гэта войска?
Сказаць стыдаўся-б, чалавек!
Уняўшы спрэчку аб баўгарах,
Панас пытае з грамады:
— Во пан чытаў аб грэцкум войску,
А—гэныя-ж ідуць куды?
— Пакуль нікуды, усё хітруюць.
Горш цыганоў іх пі знашу,
Бо цэлы час яны нас зводзюць,
Як д'ябал добрую душу...
— Ну, а гэныя румынцы?—
Уткнуў Даніла свой язык:
Я чуў, варушацца патроху,—
А іх куды гарнуць у лік?
— Каму румынцы ў помач стануць
Яшчэ аб гэтым ведзі нет.
Як мне здаецца, яны мусюць
Крапчэй трымаць нэйтралітэт.
Тут раптам гоман сьціх у хаці,—
Замоўклі с страху мужыкі.
Спужаў іх вораг нівядомы,
Ніхто ні знаў: хто-ж ён такі?
— Нэйтралітэт? Якой ён веры?
Рыгор ня вытрываў, спытаў:—
А ён чаго? Адкуль узяўся?
Яго да нас хто падаслаў?
Скажы, панок,—чаму ўсе панствы
Яго трымаюць крэпка так,
Нішачай ён такі, як немяц,
Калі ня горшы 'шчэ лайдак!
Тут ня стрымаўся пісар з сьмеху:
— Во цемра гдзе, ні дай ты Бог!
Што вам здаецца?—І прыкладна
Стаў ім тлумачыць так, як мог.
— Вам, кажа, нельга сказаць ясна,
Дык я прыклады буду браць.
Вот бытцам мы утрох у пуню
Пайшлі прымерам начаваць.
Ляглі уполеч усе трое,
А прасьціна у нас адна.
Траім, бач, нельга нам пакрыцца,—
Крыху за вузкая яна.
Дык я улёгся пасяродку,
А ты с Цімохам па краёх.
Вас абаіх прахопе вецяр,
Пачнеш перш кратацца Цімох,
Празябшы моцна. І станеш,
Каб увагрэць сваю спіну
Цягнуць у свой бок прасьціну.
Ну, а Рыгор,—і ён, бач, с краю
Раскрытым доўга ні пасьпіць.
Прамерзьне хутка і прачнуўшысь,—
Німа чаго на'т і дзівіць,—
Старацца будзе гэтак сама
Гарнуць у свой бок прасьціну,
Бо і яму халодны вецяр
Дзьмуць будзе с краю у спіну.
А мне дык цёпла пасяродку,—
Абоім вам я тут сусед
І ні валтужуся. Вось гэта значэ,
Што я дзяржу нэйтралітэт.

Альбэрт Паўловіч.

## Усе роуна.

Сьпек на полі, гарачыня,—
Ні хмурынкі ані дзе...
Вецяр сьціх... Касец ад поту
Аж купаецца ў вадзе.
Пот цурком ліе за шыю,
Мокры скіліцы і лоб,
Рукі млеюць, смага мучэ...
Не, ні вытрываў Пракоп!
З сьлізкіх рук каса ірвецца
І ня служа ўжо саўсім;
А кашуля, аж прымокла,
Хоць выкручывай на ім.
Самы сьпек,—не дай Ты, Божа!
Дакучаюць авадні...
Во Пракопка, утаміўшысь,
С цяжкай працы а паўдні,
Ледзь жывы пайшоў да хаты,
Барджэй просіць падаць піць,
Бо ад смагі—губы, горла,—
Усё пасохла, аж баліць!
Жонка мужу дагаджае
І пытае, чаго даць:
Малака, ці мо вадзіцы,
А мо квасу пашукаць.
Муж, згаджаючыся з жонкай,
Кажа, севшы ля стала:
«Мне ўсё роўна, але лепяй,
Каб гарэлкі ты дала»...

Альбэрт Паўловіч.

